

№ 16 (129)

Красавік 2006 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года


## У нумары:






*Выцінанка Ігара ЦІТКОЎСКАГА, фота Міколы КОТАВА*

## Міжнародны дзень аховы помнікаў

Чарговы раз цывілізаваны свет адзначае Міжнародны дзень аховы помнікаў. Робіць спробу ўліцца ў цывілізаваны свет і наша краіна. І гэта бачна нават па тым, што мінулы год прынёс нам радасную вестку: помнікі славутага горада Нясвіжа ЮНЕСКО ўключыла ў Спіс сусветнай спадчыны; вылучаны Беларуссю і Польшчай у гэты Спіс і помнік міжрэгіянальнага значэння – Аўгустоўскі канал.

Зараз пад аховай дзяржавы ў Беларусі знаходзяцца 4 811 помнікаў гісторыі і культуры. Аб тым, як ахоўваюцца помнікі нашай краіны, шырока і прынцыпова ішла гаворка на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Міжнароднаму дню аховы помнікаў, якая адбылася 13 красавіка 2006 г. у Нацыянальным прэс-цэнтры. Прэс-канферэнцыю арганізавалі і правялі Міністэрства культуры, Нацыянальная акадэмія навук, Беларускі камітэт Міжнароднай рады па помніках і мясцінах (ІКАМОС). Перад журналістамі выступілі і адказалі на пытанні начальнік Упраўлення аховы гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры В. Абламскі, яго намеснік І. Чарняўскі, старшыня Беларускага камітэта ІКАМОС У. Гілеп, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі НАН Беларусі В. Даніловіч, начальнік аддзела захавання археалагічнай спадчыны Інстытута гісторыі НАН Беларусі В. Ляўко, загадчык аддзела славістыкі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі А. Марозаў.

***Наш кар.***

### На тым тыдні...

● Новы гістарычны праект, усе фільмы якога зняты ў жанры журналісцкага расследавання, пачаў выходзіць на тэлеканале «Лад». У праграме на красавік фільмы «Стратэгіі перамог» (гісторыя Даманаўскага плацдарма, з якога пачалося вызваленне Віцебска), «На ўсходзе сонца» (спроба разгадаць таямніцу смерці Цішкі Гартнага. У фільме, у прыватнасці, прыняў удзел вядомы даследчык жыццёвага і творчага шляху першага старшыні савецкага урада Беларусі Эрнест Ялугін), «Партрэт вучня» (новыя факты забойства ў Віцебску мастака Іегуды Пэна), «Легенды Вялікага княства».

● Абноўленая экспазіцыя нядаўна адкрылася ў Музеі абароны Брэсцкай крэпасці. Прадстаўленыя матэрыялы расказваюць пра малавядомы і малавывучаны перыяд у гісторыі крэпасці: падзеі савецка-польскай вайны 1918–1921 гадоў, ролю Рыжскага мірнага дагавора ў гісторыі цытадэлі.

● Выстава дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і жывапісу «Цуды маляванага свету», прысвечаная памяці беларускай народнай мастачкі Алены Кіш (1896–1949), адкрылася ў мінскай мастацкай галерэі «Універсітэт культуры». Тут прадстаўлены творы як Ігара Рымашэўскага, Рыгора Іванова, Людмілы Шчамялёвай, так і маладых мастакоў – студэнтаў і выпускнікоў Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, а таксама Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Куратар экспазіцыі, кандыдат мастацтвазнаўства Яўген Шунейка на адкрыцці адзначыў, што асноўны дэвіз выставы – развіццё нацыянальнага кірунку ў мастацтве.

● 13 красавіка б.г. у Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа адкрылася экспазіцыя выстаўкі «Свята Вялічка – з чырвоным яечкам» мастакоў-аматараў Валянціны Пісарэнкі (Мінск) і Святланы Калкоўскай (Стоўбцы). Тут жа экспанаваліся і матэрыялы з фондаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі: драўляныя яйкі, выкананыя мастакамі С. Тунікам, К. Астроўскай, Т. Бембель, М. Галынскай і іншымі.

Унікальнымі з'яўляюцца на выстаўцы экспанаты Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея і Беларускага саюза майстроў народнай творчасці. Гэта прадметы народнага побыту, дэкаратыўныя элементы ўбранства, святочна-абрадавая атрыбутыка.

Стваральнікі выстаўкі жадаюць наведвальнікам прыемных уражанняў і шчыра віншуюць са святам Вялікадня!

*«Добра быць у дарозе, якую сам сабе выбіраеш».*
*Якуб Колас*

*20 гадоў бяды вялікай*

## Нас становіцца ўсё менш

Насельніцтва Краснапольскага раёна да Чарнобыля складала 22 600 чалавек, з іх дзяцей – 5 564 (24,6 %). Да 2003 г. насельніцтва зменшылася ў сувязі з адсяленнем людзей з зоны амаль у 2 разы і складала 13 200 чалавек, у тым ліку дзяцей – 2 682 (20,3 %). А вось суадносіны народжаных і памерлых складаюць 1:2. Значная частка людзей памірае ў сельскай мясцовасці. Такога ніколі не адбывалася на працягу амаль 300 гадоў. Так, у 1991 г. нарадзілася 189, памерла 257 чалавек, у 1994 г. нарадзілася 202 немаўляці, хаўтуры справілі па 244 чалавекам.

У 1997 г. былі пахаваны апошнія 116 падворкаў адселенай краснапольскай вёскі Мхінічы. Тут скончылася зямное жыццё апошняга яе жыхара М.Д. Палеенкі. Ён нікуды не захацеў перасяляцца, жыў у сваёй хаце адзін, працаваў кінамеханікам у суседняй вёсцы Халмы пры сельскім клубе. Памёр у чэрвені 1997 г. Калі зрабілі тут замер забруджанасці глебы радыенуклідамі, то прыбор паказаў 69 Бк/кг.

Саша Сандрыгайла, вучань 10 класа Краснапольскай сярэдняй школы пакутаваў на востры лейкоз крыві. Памёр, калі яму споўнілася толькі 16 гадоў.

У красавіку 1991 г. брыгада ўрачоў Інстытута біяфізікі Міністэрства аховы здароўя СССР і Мінска агледзела дзяцей. Было выяўлена, што ў 50 % дзяцей зоны жорсткага кантролю назіраецца павелічэнне шчытападобнай залозы. У чатырох дзяцей знойдзена ўшчыльненне шчытападобнай залозы.

Да таго ж кожны год пакідаюць раён каля 1 тысячы чалавек. Адбываецца дэмаграфічная катастрофа. Калі так будзе і надалей, то Краснапольшчына з улікам міграцыі насельніцтва праз 20 гадоў ператворыцца ў чарнобыльскі заказнік.

*(Заканчэнне на стар. 2)*

**Нараджальнасць і смяротнасць у Краснапольскім раёне ў 1998–2003 гг.**

| Год | Нарадзілася | | Усяго | Памерла | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Вёска | Райцэнтр | | Вёска | Райцэнтр | |
| 1998 | 102 | 96 | 198 | 199 | 105 | 304 |
| 1999 | 86 | 74 | 160 | 174 | 112 | 286 |
| 2000 | 60 | 72 | 132 | 160 | 94 | 254 |
| 2001 | 92 | 75 | 167 | 162 | 136 | 298 |
| 2002 | 65 | 95 | 160 | 172 | 122 | 294 |
| 2003 | 77 | 75 | 152 | 167 | 106 | 273 |

*Краязнаўцам, і не толькі*




**19 красавіка ў паштовы абарот выйшла марка № 636**, прымеркаваная да 20-годдзя Чарнобыльскай катастрофы і Міжнароднай канферэнцыі «Чарнобыль: праз 20 гадоў. Стратэгія аднаўлення і ўстойлівага развіцця пацярпелых рэгіёнаў». Памер мініяцюры – 37 х 26 мм, наклад 70 тысячаў асобнікаў. На марках прымененыя элементы абароны. Мастак Уладзіслаў Шэвардзін, ён жа – аўтар спецштэмпеля і канверта «Першы дзень».

На Мінскім паштамце ў дзень выхаду маркі прайшло спецгашэнне.

Так і застануцца ў філатэлістычных калекцыях – вясновая квецень, чарнобыльскі вецер і злавесны радыяцыйны знак.





# «Дазволіць як выключэнне...»

Я заўсёды з вялікай цеплынёю ўспамінаю тыя дні, гады, дзесяцігоддзі, калі мне давялося працаваць побач з тагачасным намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР Нінай Лявонаўнай Сняжковай. «Побач» – хутчэй перабольшванне, бо намеснік міністра не кожны дзень сустракаецца са сваім кіраўніком з Савета Міністраў. Але ж так і хочацца сказаць «побач» менавіта таму, што мы, падначаленыя, штодня адчувалі моцную падтрымку ва ўсіх сваіх намаганнях палепшыць стан культуры, якi, як і сёння, патрабаваў нефармальных адносін, проста чалавечай дабрыні. Такой і была наша Ніна Лявонаўна: нефармальнай, добразычлівай, клапатлівай.

Аднойчы, выступаючы на прэзентацыі кнігі Ніны Лявонаўны, я прамовіў фразу (вынесена ў загаловак) і ўбачыў, з якім здзіўленнем, нават з насцярогай Н.Л. Сняжкова глядзіць на мяне. Прыйшлося тлумачыць: кожны раз, калі трэба было прымаць якое-небудзь неардынарнае рашэнне па культуры (насуперак патрабаванням Мінфіна, Дзяржбанка), мы ішлі да свайго куратара і вярталіся з рэзалюцыяй «дазволіць як выключэнне».

Колькі ж добрых спраў было зроблена «як выключэнне» шчыраю, добраю рукой Ніны Лявонаўны! Штогод мы пачыналі будаўніцтва новых палацаў культуры ў раённых цэнтрах, клубаў і бібліятэк у вёсках. Было нават, што я атрымаў заўвагу ад міністра культуры за надта ж вялікую ўвагу (з перакосам) да музейнай справы. Міністр культуры хацеў адкарэкціраваць перакос, але Н.Л. Сняжкова сваёй паўсядзённай працай толькі падтрымлівала мяне і дапамагала адкрыццю новых музеяў і музейных экспазіцый.

Дзякую Вам, дарагая Ніна Лявонаўна, за Ваш клопат аб культуры краіны. Не ведаю, чым адзначаць яе прадстаўнікі Ваш агромністы ўклад у культурную спадчыну Беларусі, а мы – «Краязнаўчая газета» – чым можам: шчыра віншуем Вас з юбілеем і жадаем добрага здароўя Вам і Вашай сям'і, поспеху ў Вашых надзённых мацярынскіх клопатах аб нашай Айчыне.

***Уладзімір ГІЛЕП***



*Ніна Сняжкова (у цэнтры) з фізікам Барысам Сцяпанавым, беларускімі пісьменнікамі Іванам Новікавым, Эдзі Агняцвет і Андрэем Макаёнкам*

## *Шаноўная Ніна Лявонаўна!*

*Грамадскае аб'яднанне «Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» сардэчна віншуе Вас з днём нараджэння.*

*Яскравай плённай старонкай у жыцці таварыства азначаны той час, калі вы ўзначальвалі таварыства аховы помнікаў як старшыня. Асабіста многае зроблена Вамі па захаванні помнікаў як намеснікам старшыні Савета Міністраў Беларусі ва ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы рэспубліканскіх майстэрняў, стварэнні рэстаўрацыйных участкаў у абласцях, па падрыхтоўцы спецыялістаў па рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры і унікальных музейных каштоўнасцей.*

*Жадаем Вам, паважаная Ніна Лявонаўна, моцнага здароўя, даўгалецця, поспехаў на карысць нашай Радзімы.*

***Галіна САЎЧАНКА,***
***намеснік старшыні Прэзідыума Рэспубліканскага савета грамадскага аб'яднання «Беларускае добраахотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры»***

## Сустракайце «Жывую вясну»!..

Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) паведамляе, што сёлетняй вясной упершыню ў 38 краінах Еўропы, а таксама ў Беларусі, пачалася кампанія Bird Life «Жывая вясна». АПБ прапануе назіраць за прадвеснікамі вясны – птушкамі. А менавіта за белым буслом, вясковай ластаўкай, свіргуляй і зязюляй, якія першымі вярнуліся з выраю. Назіранні можна самастойна занесці на сайт www.springlive.org альбо папрасіць аб гэтым супрацоўнікаў АПБ. Для гэтага трэба даслаць паштоўку (а/с 081, АПБ, Мінск, 220023) з паведамленнем аб тым, якіх з чатырох відаў птушак вы бачылі, дзе і калі. Таксама напішыце сваё прозвішча, узрост і адрас. Ваша інфармацыя будзе абавязкова размешчана на сайце.





## *20 гадоў бяды вялікай*

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

# Дзеці і Чарнобыль

У 1986 г. у школах Краснапольскага раёна займалася 3 358 вучняў. Усе разумелі, што дзеці – самая вялікая каштоўнасць, што яны – наша будучыня, а радыкальных падыходаў да іх аздараўлення працяглы час не існавала. Аказвала ўплыў тэорыя бяспечнага пражывання ў зоне. У 1986 г. з зоны забруджанасцю звыш 15 Кі/км² аздараўленне праходзіла нязначная частка дзяцей. Большасць дзяцей вывозілі ў суседні Хоцімскі раён, які лічыўся чыстым ад радыенуклідаў. Аздараўленне дзяцей праходзіла толькі ў летні перыяд. Вучні адпачывалі не школамі, нават не класамі, а невялікімі групамі па пуцёўках прафсаюзных камітэтаў. Аздараўленне не насіла ўсеагульнага характару. Зрухі сталі адбывацца ў наступныя гады. Пастуова дзяржаўны клопат пра дзяцей чарнобыльскай зоны ператвараўся ў сістэму, стаў праводзіцца паўсюдна. У краіне ў 1986–1990 гг. прайшлі аздараўленне 332 тысячы дзяцей, на Краснапольшчыне – каля 10 тысяч.

Для гэтых мэт былі перададзены санаторыі былота IV Галоўнага ўпраўлення Міністэрства аховы здароўя БССР у Місхоры, Аксакаўшчыне і Баравым (воз. Нарач).

Белсаўпроф прыняў шэраг пастаноў аб выдзяленні дадатковых грашовых сродкаў на аздараўленне працоўных і іх дзяцей, якія пражываюць ва ўказаных раёнах, на аказанне матэрыяльнай дапамогі пацярпелым. Пуцёўкі для дзяцей, бацькоў з дзецьмі, цяжарным жанчынам і дарослым у санаторыі ва ўсе здраўніцы (у санаторыі і ўстановы адпачынку) выдаваліся бясплатна. Прафсаюзы аплачвалі праезд у здраўніцы і назад, харчаванне дзяцей у дарозе, камандзіровачныя суправаджальнікам, гаспадарчыя расходы на ўтрыманне аздараўленчых устаноў.

У 1989 г. прайшлі аздараўленне 83 тысячы, у 1990 г. з зоны ад 5 Кі/км² і вышэй аздароўлена больш за 319 тысяч чалавек.

Урадам і грамадскімі арганізацыямі забяспечана дадатковае аздараўленне дзяцей на Кубе, у ФРГ, ГДР, Ізраілі, Галандыі і іншых краінах.

Клопаты аб дзецях аб'ядналі ўсіх людзей добрай волі розных краін свету. Яны, незалежна ад таго, на якой мове размаўляюць, сталі ствараць дабрачынныя арганізацыі і запрашаць нашых дзяцей на аздараўленне. За 20 гадоў амаль усе краснапольскія дзеці пабывалі ў краінах далёкага замежжа, а некаторыя многа разоў. Асабліва шмат дзяцей запрасілі на адпачынак у Германію, Італію, Галандыю, Бельгію і іншыя краіны.

Дастаўлялася і гуманітарная дапамога. Так, у 1995 г. у адрас фонду «Дзеці Чарнобыля» Краснапольскага раёна паступіла гуманітарная дапамога з Японіі. Прыслаў яе «Чарнобыльскі дзіцячы фонд у Японіі» (кіраўнік пан Р. Хіракава).

Дзіцячае аддзяленне раённай бальніцы папоўнілася антыбіётыкамі, вітамінамі. Для грудных дзетак былі дасланы малочныя сумесі, а для дзяцей, якія знаходзіліся на лячэнні ў аддзяленні бальніцы, – падарункі.

Везлі гуманітарную дапамогу дзецям Краснапольшчыны і з іншых краін свету.

У лютым 1991 г. быў прыняты Закон «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», у якім упершыню быў заканадаўча ўстаноўлены прававы статус грамадзян чарнобыльскай зоны. Дзеці атрымалі права на аздараўленне да 2-х месяцаў, бясплатна ўтрымліваліся ў дзіцячых дашкольных установах, бясплатна забяспечваліся харчаваннем у школах, ПТВ і тэхнікумах, аздараўленне іх стала праводзіцца круглы год, а дзеці з зоны забруджанасцю 15 Кі/км² і вышэй сталі праходзіць аздараўленне двойчы на год. На аснове прэзідэнцкай праграмы «Дзеці Беларусі» былі рэканструяваны многія медыцынскія ўстановы для рэабілітацыі і аздараўлення дзяцей, якія пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС. Камітэтам па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС ва ўсіх абласцях створаны рэабілітацыйна-аздараўленчыя цэнтры.

У 2003 г. Краснапольскаму раёну было выдзелена з рэспубліканскага бюджэту (ЧАЭС) 774150,7 руб. За гэтыя сродкі адпачыла 2 776 дзяцей і падлеткаў, 348 настаўнікаў, выхавальнікаў і бацькоў.

Краснапольскія школьнікі сталі таксама адпачываць у санаторыях і санаторыях-прафілакторыях Магілёўскай вобласці «Фандок», «Рассвет», дзіцячых аздараўленчых цэнтрах «Світанак», «Янтарь» і інш.

У апошнія гады, на жаль, не ўсе дзеці з зоны забруджанасцю 15 Кі/км² і вышэй маюць магчымасць аздараўлівацца двойчы на год. Частка краснапольскіх дзяцей адпачывае на месцах у чыстай зоне з круглясутачным утрыманнем (вёскі Гарадзецкая, Пачапы). Звычайна тут адпачываюць дзеці з мнагадзетных і малазабяспечаных сем'яў.

Толькі клопатамі дзяржавы і ўвагай людзей можна забяспечыць здароўе падрастаючага пакалення ва ўмовах радыяцыйнага забруджвання.

***Леанід ЛАБАНОЎСКІ***

*(Паводле кнігі «Краснаполле: у промнях Чарнобыля», 2005)*

**Аздараўленне дзяцей Краснапольскага раёна ў 2000–2004 гг.**

| Год | Колькасць вучняў у школах | Усяго аздараўлялася дзяцей і падлеткаў разам з суправаджальнікамі | У т.л. дзяцей і падлеткаў з зоны | | | Прайшлі аздараўленне двойчы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ад 1 да 5 Кі/км² | ад 5 да 15 Кі/км² | ад 15 Кі/км² і вышэй | |
| 2000 | 2 223 | 1 041 | 79 | 639 | 14 | – |
| 2001 | 2 221 | 4 019 | 356 | 2 980 | 31 | 669 |
| 2002 | 2 214 | 3 785 | 522 | 2 667 | 32 | 803 |
| 2003 | 2 208 | 3 179 | 1 421 | 1 351 | 31 | 592 |
| 2004 | 2 198 | 2 419 | 998 | 1 105 | 28 | – |

*Кароткі слоўнік*
## краязнаўча-праваой тэрміналогіі
*беларускай старажытнасці*



**(Пачатак у № 3 за 2005 г.)**

**ПАРТАЧЫ** – рамесны люд на Беларусі ў 2-й пал. XVI – пачатку XVIII стст., які не ўваходзіў у цэхі. Пазней так пачалі называць няўмельцаў.

**ПАСАГ** – скарб альбо маёмасць, што даваліся бацькамі або родзічамі маладой. Былі розныя віды яго: грошы, золата, серабро і іншыя каштоўнасці, хатнія рэчы і інш. Жонка магла сама распараджацца сваім пасагам, завяшчаць яго любой асобе ці ён мог быць вернуты бацькам, калі дачка не пакінула нашчадкаў. Калі жанчына выходзіла замуж супраць волі бацькоў ці апекуноў, альбо шлюб скасоўваўся па яе віне, то яна магла страціць права на пасаг.

**ПАСАД** – частка горада, дзе размяшчаліся купцы і рамеснікі – звычайна побач з дзядзінцам. Пасады мелі ўсе беларускія гарады. У XVI ст. у Полацку было 6 пасадаў агульнай плошчай больш за 100 га.

**ПАСТАЎ** – адзінка колькасці тканіны, роўня 50 локцям (32,48 м). Бывала, што гэты тэрмін абазначаў адзінку тканіны, якую можна выткаць, аснаваўшы кросны адзін раз.

**ПАСТОЖНАЕ** – падатак з сялян у ВКЛ паводле памеру і якасці сенажаці, колькасці стагоў.

**ПАТВАР** – абылганне паклёпам чалавека, што паводле Статута ВКЛ 1588 г. лічылася крымінальным злачынствам. Неадназразова вінаваты за ілжывы данос караўся вырываннем адной ноздры.

**ПАТРОН** (ад лац. абаронца) – назва прысяжнага пракуратара або адваката, які выконваў абавязкі абаронцы ў Трыбунале ВКЛ. Іх там было звычайна да 30 чалавек, і асоба, якой была патрэбная юрыдычная дапамога, магла наняць для паслуг аднаго ці некалькіх патронаў.

**ПАТУРЭМНАЕ** (пакалоднае, паланцужнае) – устаноўленая Статутам ВКЛ плата ад вязня пры вызваленні з турмы, дзе ён адбываў пакаранне прыкаваным да калодкі ці на ланцугу. Патурэмнае сплочваў той, хто быў прызнаны судом вінаватым, або бок повадавы (калі абвінавачаны быў не ў стане заплаціць). За пасталюдзіна плаціў гаспадар.

**ПАХВАЛКА** – прамоўленыя публічна пагроза, намер зрабіць замах на чыё-небудзь жыццё, здароўе альбо маёмасць. Асоба, якая адчувала небяспеку, магла звярнуцца ажно да вялікага князя з просьбай аб абароне – лісце заручным. Ужо скрыўджаны павінен быў тэрмінова зявіць аб пахвалцы ў суд і патрабаваць абараніць яго. У гэтым выпадку суд папярэджваў пагражальніка аб адказнасці і перадаваў яго на парукі па месцы жыхарства. Таго, хто адмаўляўся ад парукі, трымалі ў зняволенні, пакуль ён не даваў асабістага паручыцельства.

**ПЕННАЕ ІМЕННЕ** – спрэчны маёнтак, у большасці выпадкаў з даўгамі, наконт чаго справа разглядалася ў судзе.

**ПЕНЯЗЬ** – назва грошай наогул і ўсходнеславянская назва дэнарыя.



*Афіцэр артылерыі войска ВКЛ 1792–94 гадоў (малюнак Ю. Герасімовіча)*

*Факультатыў*

# Свет ад травы да зор

**Цыкл урокаў «Беларуская паэзія: сістэма вобразаў прыроды, паэтыка пейзажу»**

***Вобразы вясны, вясновыя матывы займаюць адно з галоўных месцаў у вусна-паэтычнай творчасці. А калі зірнуць глыбей, у старажытнай міфалогіі беларусаў, увогуле славян. Уклад жыцця нашых продкаў быў вельмі цесна звязаны з зямельскай-карміцелькай, яе пладаноснасць, урадлівасць напрамую залежалі ад прыроды, яе спрыяння. Абуджаная зямля, вясновае сонца былі прадвеснікамі новага земляробчага года, яны выклікалі ў чалавечай душы і радасць, і хваляванні. Невыпадкова ў народзе да нашага часу кажуць: «Вясна год корміць». Альбо: «У сакавіку зіма не гніе – у красавіку трава не расце», «Як у сакавіку туман, дык у жніво дождж – пан!», «У красавіку грымот – будзе цёплы год», «Май халодны, год хлебародны» і інш.***

## «Ідзі, вясна, красуйся...»

*(Працяг. Пачатак у №№ 13, 14)*

У вершы «Ручаі за гулі» (1946) ён з чуйнай увагай да навакольнай канкрэтыкі сузірае, як па-вясноваму абнаўляецца родны свет: «Кожны дзень ад халоднай зямлі Падымаецца сонца ўсё вышай», «Мне прыемна стаяць ля ракі і глядзець, як варушыцца Нёман. Узддыхае свабодна рака...» І надалей у нашай паэзіі вясна была яркім люстэркам чалавечага настрою на самых розных пуцявінах жыцця. Праўда, у гэтым вобразе-матыве выявіліся і рэцыдывы ідэалагічнай аптымізацыі, ідылічнасці паэтычнага светаўспрымання. Аднак несумненна, што ў вобразе вясны, вясновых матывах знайшлі глыбокае адлюстраванне і непадробны душэўны стан асобы, душа народная, яе сапраўдны аптымізм і няскоранасць на крутых пераналах часу і гісторыі.

Надзвычай шматсэнсоўна, шматмерна вобраз вясны ўвасоблены ў сучаснай беларускай паэзіі. Тут мы сустракаем як традыцыйныя вывы вобраза ў іх індывідуальным, арыгінальным мастацкім пераадкрыцці, так і зусім новыя, змястоўна-яркія старонкі «вясновай кнігі» (П. Броўка), народжаныя пад уплывам часу з яго шматлікімі навацыямі і экалагічнымі бедамі.

Увогуле кажучы, цяжка знайсці сучаснага паэта, які не апяваў бы вясну, не імкнуўся далучыць сваё «я» да яе шматлікіх матываў. Вялікія веснавыя ў нашай паэзіі Максім Танк, Ніл Гілевіч, Пімен Панчанка, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Алег Лойка. Паэтычная вясна Еўдакіі Лось, як мы памятаем, пачыналася з кніжкі «Сакавік» (1958), Веры Вярбы – са зборніка «Вочы вясны» (1962), Генадзя Бураўкіна – з «Майскай просіні» (1960)... Вясновы жыватворны поступ чуецца ў назвах такіх кніжак паэзіі, як «Прадвесне ідзе па зямлі» (1959) Ніла Гілевіча, «Рунець, красавацца, налівацца!» (1961) Рыгора Барадуліна і інш. Красамоўна называюцца паасобныя зборнікі маладой паэзіі 1960–1970-х гадоў – «Рунь», «Вёсны» і інш. Словам, вясна – самы натхняльны час: наша паэзія, і перадусім – лірыка пейзажная – скрозь у вясновых матывах. Мы маем шматлікія паэтычныя карціны і малюнкі вясны, ці, так бы мовіць, багацце «вёснаў», якія часам даволі блізкія, падобныя па мастацкім адлюстраванні. Але ў нашай душы і памяці застаюцца толькі таленавітыя індывідуальна-яркія вобразы, якія складаюць «звышвобраз нацыянальнай мастацкай свядомасці» і без якіх «вялікая колькасць адпаведных вобразаў рассыпалася б, не стала б набыткам нацыянальнай паэтычнай свядомасці» (М. Эпштэйн).

На памежжы вясны і зімы часта выказвае свае ўнутраныя перажыванні лірычны герой Анатоля Грачанікава: «Вясна... А ў сэрцы завіруха, Мароз, адліга і слата...» («Вясна...»). Паэт вельмі любіў палескае прадвесне, тую хвіліну, калі «пачынаюцца і ў душы весняй радасці капяжы» («Капяжы...»). Эмоцыя яго-ная пазначана першароднасцю і празрыстасцю адчуванняў. Голас паэта лірычна-одумны, задушэўна-ціхі.

Зусім іншы творчы тэмперамент у Ніла Гілевіча. Ён паэтызуе вясну яркую, звычнагалосую, у дынаміцы пейзажных матываў. З выразнай экспрэсіўнасцю перадае паэт свой настрой у вершы «Свята зямлі»:

*О, зямля!*
*Ты ўся ў абновах!*
*Ты ў мільён*
*званочкаў звоніш.*
*Ты на ста пявучых мовах*
*Весняй радасцю гамоніш.*

Адзін з найвялікшых момантаў душэўна-эмацыянальнага ўзрушэння, які з магутнай сілай праяўляецца вясной, – гэта каханне. Прычым каханне мае ў прыродзе ўсеахопны характар, яно гаворыць вуснамі вясны. «Вясны бурлівай шчырая сяброўка», – так называе сябе лірычная гераіня Дануты Бічэль-Загнетавай. Народзіны і «пік» кахання для яе – вясна, таму вясна – «разбуджаная», «бурлівая», «спакусная», а ў «сэрцы... зялёным радком усходзяць зярняты».

Каханне і вясна – пачуцці, якія прачула-інтымна знітаваны ў паэзіі Яўгеніі Янішчыц. Чытаючы вершы «Маналог яблыні», «Яшчэ далёка да вясны...», «Ручайкі сакавіцкага свята...», «У белым кіпені сады...», адчуваеш, як абнаўляецца ўнутраны свет паэткі разам з вясновым абуджэннем.

Вясна – сапраўды новая іпастась эмацыянальна-эстэтычнага жыцця чалавека, пошук светлага, новага, радаснага. «Шукаю веснавых прыкмет На снезе, у вачах, на дрэвах...» – перадае свае ўнутраныя адчуванні Казімір Камейша.

Успрыманне вясны можа набываць новыя адценні ў сувязі з духоўнай эвалюцыяй, біяграфіяй лёсу паэта. Узнёсла-радасны, поўны маляўнічай захопленасці ў сваіх вясновых вершах з першага зборніка «На юначым шляху» (1959) Алег Лойка. З цягам часу вясна бачыцца яму з дамешкам суму, балючасці: «Палюбіў я светлы свет, А любіць – балюча» («Вішні, вішні – белы свет...»). Сакавік для паэта – «месяц жалобы»: «Ты хаваў майго дзеда, хаваў бацьку...» («Сонечныя ручнікі»). І ўсё ж, нягледзячы на драматызм асабістага свету, паэт застаецца шчырым жыццялюбам, не ўяўляе сябе без вясновай песні жаўранка, кветак, сонечнай раніцы. А. Лойка – паэт-філасаф, які звязвае з вясной кругабег жыцця і часу.

У шматстайнасці сэнсавага гучання выяўлены ў сучаснай паэзіі матывы вясновага прарастання і квітнення. З прарастаннем зярняці, травы, руні звязваецца ўвасабленне мудрай філасофіі прыроды, філасофіі быцця чалавека.



*«Шукаю веснавых прыкмет на снезе, у вачах, на дрэвах...»*

*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

*Алесь БЕЛЬСКІ*

*(Заканчэнне будзе)*





# Калі ў дарозе ты...

**Так называўся томік паэзіі першага выбранага Алега Лойкі, выдадзены ў 1971 годзе. А яго дарога ў свет, у літаратуру і навуку пачалася ў Слоніме 1 мая 1931 года ў сям'і слыннага на ўсё наваколле народнага лекара. У 1939 скончыў польскую сямігодку, пасля працягваў навучанне ў слонімскай рускай школе. Пасля яе скончыў філфак БДУ, аспірантуру і з 1956-га больш за сорак гадоў выхоўваў там маладых філолагаў, у апошняе дзесяціголдзе выкладаў і за мяжой. Слухаць лекцыі Алега Антонавіча было вельмі прыемна: ён і чалавек абаяльны, і глыбокаадукаваны, і выключны прамоўца, і ўлюбёны ў літаратуру многіх народаў, шмат дэкламуе вершаў і цытат класікаў на памяць.**



А. Лойка дэбютаваў вершам «Святочным раннем» у запомны для сябе дзень – 1 мая 1951 года ў «ЛіМе», але першую кнігу выдаў толькі праз 8 гадоў: перад гэтым нямала часу пайшло на далейшае навучанне і на працу над кандыдацкай дысертацыяй па сувязях А. Міцкевіча і беларускай літаратуры. Пасля ён, сумяшчаючы працу над многімі падручнікамі і артыкуламі (больш паўдзесятка манаграфій, каля паўтысячы навуковых публікацый, дапаможнік «Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд»), у якіх ён асвятляў многія працэсы і з'явы развіцця літаратуры XIX і XX стагоддзяў – «пытанні рэалізму і рамантызму, фалькларызму паэзіі, заканамернасці развіцця беларускай лірыкі і эпасу, літаратурных сувязі» (Я. Саламевіч), напіша і выдасць не меней 30 зборнікаў вершаў і паэм. У іх – вялікая любоў да прыроды, Бацькаўшчыны, да шчырых і сумленных, працавітых людзей. Не абмінае ўвагай і дзяцей, гумар, споўніў нямала перакладаў. Многія яго лірычныя вершы пакладзены на музыку.

Шмат часу, ведаў, натхнення, адным словам, напружанай працы ён аддаў на кнігі эсэ, а то і прозы пра Я. Купалу і Ф. Скарыну. Яны былі перакладзены на рускую мову і выйшлі ў Маскве ў серыі «ЖЗЛ». Калі не памыляюся, гэта – першыя беларускія раманы, што ўдастоены такога гонару. Нямала артыкулаў напісаў для Беларускай энцыклапедыі, быў навуковым рэдактарам энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала».

Асабіста я пабачыў Алега Антонавіча ў 1963 годзе – тады яшчэ зусім маладога, здаецца, яшчэ без акуляраў, жвавага, – і не абы-дзе, а на прыёмных экзаменах на філфаку БДУ. Яго напарнік, высокі і пышнавалосы, з гучным голасам Ніл Гілевіч вельмі напужаў нас, падкрэсліўшы ва ўступным слове перад пачаткам напісання сачынення, што мы хочам трапіць не абы-куды, а менавіта на філфак БДУ – кузню філалагічных кадраў, многія выпускнікі якога – вядомыя навуковыя і літаратурныя знакамітасці, класікі. А вось Алег Антонавіч хадзіў між радоў і найперш звяртаўся да тых, каго было найменш у запоўненай зале: "Хлопчыкі, хто з вас піша вершы?" Зусім паблізу пачулася: "Я". Гэта быў Уладзімір Дзюба, вершы якога былі ўжо надрукаваныя ў «Чырвонай змене». "А вы, чарнявы?" – звярнуўся да мяне Лойка. "Я пішу прозу". "О то мо і лепш», – усміхнуўся ён і запісаў маё прозвішча ў блакнот. Пазней гэта дапамагло нам...

***Дарагі Алег Антонавіч, Вам цяпер вельмі цяжка, на вялікі жаль, мусіце не зусім далёка адыходзіцца ад пасцелі, але Вы – мужны, добры па натуры, светлы душой, назаўсёды закаханы ў літаратуру чалавек, вытрымаеце розныя жыццёвыя напасці і яшчэ доўга-доўга будзьце ў дарозе!.. Віншую з юбілеем!***

*Генрых ДАЛІДОВІЧ*




# Рэфармацыя ў Беларусі: сэнс, вынікі, лёс

## Грамадска-палітычны сэнс Рэфармацыі ў ВКЛ

Ініцыятарамі рэфармацыйнага руху ў Вялікім княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім былі ў асноўным буйныя беларускія і літоўскія феадалы – Радзівілы, Валовічы, Сапегі, Кішкі, Ходкевічы, Гарнастаі, Пацы, Глябовічы, Дарагастайскія і інш. Галоўная прычына дадзенай акалічнасці ў тым, што беларуска-літоўскае панства звязвала царкоўную незалежнасць з незалежнасцю дзяржаўнай. Значную ролю ў рэфарматарскіх інтэнцыях магнатаў і шляхты адыгрывалі духоўна-культурныя фактары. Многія з іх мелі універсітэцкую адукацыю, доўга жылі ў Італіі, Францыі, Нямеччыне, Швейцарыі, Ангельшчыне, падарожнічалі па Еўропе, з энтузіязмам успрымалі ідэі гуманізму і Рэфармацыі, што не магло не адбіцца на іх светапоглядзе, у тым ліку і на палітычным. Нельга не ўлічваць і эканамічных інтарэсаў, якімі таксама была абумоўлена энергічная рэфармацыйная дзейнасць беларуска-літоўскай арыстакратыі.

Пратэстанцкая дактрына аказала выключнае ўздзеянне на далейшае грамадскае развіццё еўрапейскіх краін, у тым ліку і Беларусі. Як адзначалася, ідэолагі пратэстантызму нацэльвалі чалавека не на глабальныя метафізічныя праблемы, а на свецкія зямныя рэаліі – працу, сям'ю, побыт, самаўдасканаленне і г.д. У пратэстантызме складваўся новы тып чалавека – чалавека, які ўсведамляе адказнасць за сваю справу, даражыць сваёй прафесійнай рэпутацыяй, чалавека разважлівага, памяркоўнага, талерантнага, сумленнага, карацей кажучы, той тып асобы, які адпавядаў новаму буржуазнаму грамадству, якое нараджалася. На думку Макса Вэбера, аўтара вядомай працы «Пратэстанцкая этыка», канцэпцыя свецкага прадвызначэння чалавека з'яўлялася адной з самых значных ідэй, створаных Рэфармацыяй. Пратэстанцкая этыка, меркаваў Вэбер, сфармавала ў чалавеку «дух капіталізму», г.зн. спецыфічны псіхічны склад, для якога характэрныя працалюбства, ашчаднасць, памяркоўнасць, прафесійная добрасумленнасць і г.д. Засвоеныя пры дапамозе выхавання гэтыя маральныя якасці спрыялі станаўленню тыпу асобы новага часу, эпохі рынкавай эканомікі і свабоднага прадпрымальніцтва. У Беларусі асноўныя падставы этыкі пратэстантызму былі выкладзены ў «Катэхізісе» (1562), які быў надрукаваны ў Нясвіжы за аўтарствам Сымона Будны, Лаўрэнція Крышкоўскага і Мацея Кавячынскага.

Што тычыцца пратэстанцкай канцэпцыі царквы як інстытута, грамадства і дзяржавы, то трэба адзначыць наступнае. Царква трактавалася як хаўрус вернікаў, аб'яднаных евангельскім вучэннем і таінствамі хрышчэння і прычашчэння. Служкі царквы, святары ў пратэстантызме не мелі прывілеяванага стану, а былі роўныя з міранамі. Апроч таго, у выпадку неадпаведнасці сваёй пасадзе яны здымаліся міранамі. У гэтым акце закладзены пэўныя элементы будучага буржуазнага рэспубліканізму. Раннія рэфарматары былі прыхільнікамі лаяльнасці і неўмяшальніцтва царквы ў дзяржаўныя справы. Менавіта такой канцэпцыі прытрымліваўся канцлер Леў Сапега, былы пратэстант, пра што ён пісаў у сваім знакамітым лісце да Ясафата Кунцэвіча. Тым не менш кальвіністская дактрына, у тым ліку і дактрына кальвіністаў, або евангелікаў-рэфарматараў ВКЛ, давала права прад'яўляць дзяржаве пэўныя прэтэнзіі і ў асобных выпадках нават не падпарадкоўвацца ўладзе, калі яе дзеянні ідуць «супраць слова Божага». Аднак гэтая акалічнасць не ёсць выявай тэакратыі, а наадварот, дэмакратыі, паколькі ў разуменні пратэстантаў царква – гэта збор міран, або народ. І дзяржава павінна залежаць ад гэтага народа. Такім чынам, у пратэстантызме нарадзілася раннебуржуазная ідэя народнага суверэнітэту. Ва ўлонні пратэстантызму сфармавалася ліберальная ідэя вяршэнства закону, пад уплывам якой аказалася палітычная думка Беларусі 2-й пал. XVI ст. і якая зафіксавана ў Статуце ВКЛ 1588 г.

## Нацыянальна-культурны сэнс беларускай Рэфармацыі

Вельмі значная роля айчыннай Рэфармацыі ў развіцці культуры наогул і нацыянальнай беларускай культуры ў прыватнасці. З пратэстантызмам звязана развіццё ў Беларусі адукацыі, кнігадрукавання, рэлігійна-філасофскай і грамадска-палітычнай думкі, літаратуры, першых школьных падручнікаў і г.д.

Менавіта інтарэсы распаўсюджвання рэфармацыйных ідэяў выклікалі ўзнікненне першых твораў на народнай беларускай мове – «Катэхізіса», «Апраўдання грэшнага чалавека перад Богам», «Евангелля» Васіля Цяпінскага і інш. Дзякуючы настойлівасці беларускіх паноў-пратэстантаў другі і трэці Статуты ВКЛ былі выдадзены не на лацінскай, а на беларускай мове. Пратэстантызм стымуляваў развіццё агульнай адукаванасці грамадства: кожны галава сям'і мусіў умець чытаць Біблію і тлумачыць яе сваім блізкім. Першыя прафесійныя школы ў Беларусі таксама засноўвалі пратэстанты.

З Рэфармацыяй знітавана фармаванне нацыянальнай свядомасці. Яна разбурыла адзіную касмапалітычную сістэму каталіцтва і стварыла перадумовы для ўзнікнення нацыянальнай царквы з пропаведдзю і навучаннем на роднай мове. Рэфарматары, як вядома, першымі пераклалі Біблію на родную мову (Уікліф – у Ангельшчыне, Гус – у Чэхіі, Лютэр – у Нямеччыне, Скарына – у Беларусі), што адыграла вялікую ролю ў развіцці нацыянальнай культуры і самасвядомасці. У сваіх прадмовах да Бібліі Скарына свядома і настойліва падкрэсліваў нацыянальна-патрыятычную накіраванасць сваёй дзейнасці: «...наболей с тое прычыны, иже мя милостивы Бог с того языка на свет пустил». Сюжэт пра Юдзіф у скарынаўскім тэксце таксама носіць яскрава выяўлены нацыянальна-патрыятычны характар. Менавіта з нагоды гэтага сюжэту Скарына фармулюе сваё знакамітае выказванне «Понеже от прирожения...». Пратэстанцкі «Катэхізіс», убачыўшы свет у 1562 г. у Нясвіжы, заклікаў беларускае панства і шляхту, каб яны «не только в чужоземских языцех кохали, але бы ся тэж и того славного языка словенского розмиловали и оным ся бавити рачили».

Калі ў сувязі з контррэфармацыяй і іншымі абставінамі нацыянальная беларуская культура апынулася ў небяспецы, на яе абарону першым выступіў шляхціц-пратэстант Васіль Цяпінскі, які кінуў у твар беларускаму панству абвінавачанне ў «занядбанні своего славного езыка».

Нягледзячы на тое, што ўрэшце контррэфармацыя перамагла, эканамічныя, сацыяльна-палітычныя і духоўна-культурныя вынікі Адраджэння і Рэфармацыі так або інакш захаваліся ў грамадскім жыцці і менталітэце беларускага народа, што пацвердзіла эпоха Асветніцтва і наогул наступная гісторыя. Гэта – ідэя эфектыўнай гаспадаркі, свабоды, добрасумленнай працы, сваёй зямлі, верацярпімасці, вяршэнства закону, правоў і годнасці чалавека, каштоўнасці адукацыі, культуры, роднай мовы, ведаў, філасофіі, сінтэзу Усходу і Захаду і г.д. Ідэі гэтыя натхнялі і натхняюць беларускіх адраджэнцаў XIX–XX стст. і нашага часу.

*Сямён ПАДОКШЫН*

## Наш каляндар

165 гадоў **«ВИЛЕНСКОМУ ВЕСТНИКУ»** (1841–1915) – палітычнай і літаратурнай газеце, якая выдавалася ў Вільні і Гомелі. Друкавалася на рускай і польскай мовах. Неафіцыйныя матэрыялы – пераважна на польскай. Першыя рэдактары – А. Адынец (1841–1859), а пасля – А. Кіркор (1859–1865). Пры ёй быў створаны першы беларускі гуртох. У ім бралі ўдзел А. Адынец, Ул. Сыракомля, В. Каратынскі, А. Вярыга-Дарэўскі, В. Дунін-Марцінкевіч і іншыя. Адпаведна, у ёй змяшчалася шмат матэрыялаў і пра беларускую гісторыю, этнаграфію, літаратуру. З мая 1863 г. стала органам урадавай рэакцыі, узяла варожы накірунак у адносінах да нацменшасцей.

# Просты і значны




***Сустрэчы, размовы з Міколам Ермаловічам даюць права заявіць: ён быў просты.***

***Зразумела, у паняцці простасці нямала адценняў. Мікола Іванавіч меў у гэтым сваю сілу, хоць і зведаў ад гэтага нямала напасцяў. Ды ўрэшце дабіўся таго, чаго не змаглі многія іншыя, хітрыя.***

### Шлях

Просты шлях Ермаловіча пачаўся з таго, што напрыканцы красавіка 1921 года нарадзіўся ў простай сялянскай сям'і з Малых Навасёлкаў Дзяржынскага раёна. Але тут і пачалося... Карацей, ягоная маці, Стэфка, бярэ яго, які яшчэ не ўмее хадзіць, з сабой на поле, дзе трэба жаць жыта. Паклала сына ў цені за пастаўленымі снапамі, улюбёна захапілася нялёгкай, але радаснай працай і не агледзела, што снапы ўпалі і Яго Вялікасць Сонца, якое ўсім дае жыццё, не толькі ацепліла, але і пачало сляпіць дзіця (цяжка нават уявіць, што ў пажылыя гады Ермаловіч меў мінус 26 ці 27 зроку, мог чытаць і пісаць толькі пры лупе!). Далей – больш. Для акалечанага дзіцяці і для ўсёй сям'і – зноў гора: у 1937-м арыштоўваюць гаспадара, Янку, конюха, здаецца, за «вредительство», знішчаюць; Мікола неяк ацалеў у школе і нават паступіў у Мінскі педінстытут, скончыў некалькі курсаў, ды вайна; бежанства маладога патрыёта ў Мардовію і настаўніцтва там; пасля вызвалення ўсходніх раёнаў Беларусі імкненне вярнуцца на Бацькаўшчыну; рабунак яго «скарбу» на адной са станцый, дзе зладзеі, не знайшоўшы ў яго ным куфэрку багатых рэчаў, са злосці параскідалі яго кнігі і рукапісы; вакзальнае марненне ў Маскве, дзе аднойчы бег на кіпень і, паслізнуўшыся, трапіў паміж буферамі вагонаў, выратавала спагадная маскоўская жанчына; акрыяў, пачаў агледжваць свет (у звычайным значэнні гэтага слова) у ружовым святле, трапіў на цягнік – і дамоў, пакуль што на Віцебшчыну, дзе яму, даволі ўжо адукаванаму, даручаюць наладжваць школьную справу; падаваўся ў адну з вёсак і прайшоў... замініраваную дарогу!

### Проста і няпроста

Далей настаўнічае, працягвае інстытуцкую вучобу, выкладае (у Маладзечанскім настаўніцкім інстытуце), рыхтуе педагагічныя кадры, працуе метадыстам і ў 1957 – у 36 гадоў – пенсіянер з невялічкім акладам. Не кожны ўстоіць у гэтай сітуацыі, калі ты мусіш сыйсці са шляху, саступіць месца іншым, часамі і не самым лепшым.

Некаторыя лічылі яго «дахадзягам», г.зн зусім слабым, але на самай справе гэта не так, фізічна ён быў моцны чалавек. Па-другое, ён быў моцны духам, настойлівы. Па-трэцяе, быў глыбока ўлюбёны ў сваё, роднае. Па-чацвёртае, меў жонку, якая была яго вачыма: чытала яму дробнашрыфтныя тэксты, запісвала за ім, перадрукоўвала, гадавала сына і дачку, разам з усімі мужна вытрымлівала ўсе нягоды. Гэтыя і іншыя рэчы не маглі не падтрымаць ды натхніць Міколу Іванавіча ў зачэпцы за жыццё, за навукова-творчую дзейнасць. Многія бачылі, як гэты каржакаваты, крыху ссутулены чалавек з пакоўным партфелем амаль штодня едзе з Маладзечна ў Мінск, сядзіць за кіпаю кніг у бібліятэках, вядзе ажыўленыя размовы і дыскусіі са знаёмымі і незнаёмымі, зазірае ў літвыданні і навуковыя ўстановы, а познім вечарам едзе дахаты, дзе яго зноў чакае праца. Нават і такая, што з жонкай дзеля падзаробку клеілі з кардону скрыначкі-шуфлядкі для бібліятэчных картатэк.

Ён мог стаць кандыдатам, а пасля і доктарам філалагічных навук (быў прымацаваны да аспірантуры), але ўхіліўся, не хочучы паступацца: яму даручылі напісаць дысертацыю, прыкладна, на такую тэму: «Вобраз Леніна ў беларускім фальклоры». Паспрабаваў, нават тое-сёе надрукаваў, а пасля хітравата замахаў рукамі: «Ой, што вы, ды я не спраўлюся з такой складанай тэмай!»

Ермаловіч на працягу 1940–1990 гадоў змясціў шмат рэцэнзій, водгукаў, артыкулаў як пра нашых класікаў, так і пра сучаснікаў. Але паступова ён усё больш і больш адыходзіў ад літаратуразнаўства, яго ўсё глыбей захапляла наша гісторыя. Таму ўсё часцей пачалі друкавацца ягоныя гістарычныя даследаванні – грунтоўныя і часамі спрэчныя, спантанныя і мэтанакіраваныя, але заўсёды шчырыя і шторах з большым заглыбленнем. Паступова сваімі публікацыямі, рукапісамі, што пераходзілі з рук у рукі, ва ўмовах жорсткага паліткантролю за ўсімі публікацыямі, падручнікамі, асабліва пра нашу гісторыю, ён пачаў афармляцца ў выказніка беларускай нацыянальнай ідэі і не гістарычнай канцэпцыі. Зразумела, адных гэта ўсцешыла, абудзіла, акрыліла, а іншых запалохала. За ім пачалі сачыць у поўным сэнсе гэтага слова, яго пачалі закрыта і адкрыта цкаваць, з ім праводзілі «собеседования», яму пагражалі...

***Той-сёй жартаваў: літаратуразнаўства страціла прафесіянала, а гістарыяграфія набыла «аматара». Канечне, можна не пагадзіцца, што ў Міколы Іванавіча не заўсёды і не ва ўсім акадэмічны жалезабетонны стыль, можна спрачацца з яго асобнымі думкамі альбо тое-сёе дапаўняць, але нідзе не дзенешся: менавіта ён стварыў «Па слядах аднаго міфа» і «Старажытную Беларусь», дзе ўвёў ва ўжытак шмат новых гістарычных крыніц ці некаторыя з іх, як тую ж «Іпацьеўскую летопісь», прачытаў па-новаму, без замоўчванняў і падтасовак. Менавіта ён услед за некаторымі папярэднікамі і сучаснікамі ўзмацніў думку накост нашай дзяржаўнасці з часоў Рагвалода і Тура, вызначыў ролю сённяшняга Навагрудка ў закладзе падмурка Вялікага княства Літоўскага і тым самым высакародна абуджаў ад сну і ляноты нашыя думкі і душы, да абуджэння гістарычнай памяці, без якой не было і не будзе ні аднаго народа, ні адной дзяржавы. Гэта – не аматарства, гэта – подзвіг...***

***...Афіцыйных некралогаў пра яго, чалавека, пісьменніка, гісторыка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, здаецца, не было. Ды быў, ёсць і будзе ён сам!***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

## Нашыя славутыя землякі

# Соф'я Аляксандраўна Яноўская

Шмат вядомых людзей дала Радзіме і свету Пружанская зямля. Імёны некаторых з цягам часу пачалі забывацца. І вось адно з іх вяртаецца ў галерэю нашых знакамітых землякоў. Гэта – славуты савецкі матэматык і філасоф Соф'я Аляксандраўна Яноўская, якая нарадзілася 110 гадоў таму – 31 студзеня 1896 года ў Пружанах у сям'і бухгалтэра Неймарка. Праз некалькі гадоў сям'я пераехала ў Адэсу. Там маладая дзяўчына скончыла жаночую гімназію з залатым медалём. У Адэсе сям'я Неймаркаў сустрэла Першую сусветную вайну, а потым – рэвалюцыйныя падзеі 1917 года. У 1918 г. Соф'я ўступае ў бальшавіцкую партыю і прымае актыўны ўдзел у грамадзянскай вайне. Трэба ўлічваць, што гэта былі самыя складаныя гады для бальшавікоў і савецкай улады, асабліва на поўдні Украіны, дзе сутыкнуліся вялікія вайсковыя сілы саветаў, белых і мясцовых нацыянальных рухаў. Соф'я Аляксандраўна стала камісарам у Чырвонай Арміі і з усім юным энтузіязмам усталёўвала савецкую ўладу; па некаторых звестках, трапіла ў палон да белых і цудам пазбегла смерці. Пра яе подзвіг пісаў Ісак Бабель. Аднак потым сэнсам усяго жыцця стала навука.

У 1923 г. пераязджае ў Маскву і пачынае працаваць у Маскоўскім універсітэце. Праз год паступае на вучобу ў Інстытут чырвонай прафесуры, сумяшчае вучобу з работай ва універсітэце. У той час у МДУ яна вядзе семінары для студэнтаў і аспірантаў па метадалогіі матэматыкі і прыродазнаўстве.

У 1930-я гг. Соф'я Аляксандраўна працуе ў двух месцах – МДУ і Акадэміі навук у Ленінградзе, дзе кіруе метадалагічным семінарам для навукоўцаў. У 1935 г. яна атрымлівае ступень доктара фізіка-матэматычных навук па сукупнасці работ і званне прафесара на кафедры матэматыкі Маскоўскага універсітэта. Гэта рэдкі выпадак у навуцы, які паказвае вельмі высокі ўзровень даследаванняў і выкладання. З 1936 г. прафесар Яноўская ўводзіць новы курс у сваёй alma mater – курс матэматычнай логікі на механіка-матэматычным факультэце МДУ.

На пачатку Вялікай Айчыннай вайны Соф'я Аляксандраўна пераязджае працаваць у Пермскі універсітэт. Там за два гады работы яна падрыхтавала шмат будучых навукоўцаў – 9 з яе выхаванцаў сталі кандыдатамі і дактарамі навук. У 1943 г. вяртаецца ў Маскву, дзе працягвае сваю плённую працу.



*Пружанскі сабор Аляксандра Неўскага*

За час сваёй навуковай дзейнасці Соф'я Аляксандраўна стварыла ўласныя школы ў гісторыі і філасофіі матэматыкі, а таксама ў матэматычнай логіцы. Студэнты МДУ той пары адзначаюць, перш за ўсё, яе стрыманую, інтэлігентную і ў той жа час строгую манеру выкладання. Будзе дарэчным прывесці ўспаміны Барыса Кушнера – вучня Соф'і Аляксандраўны – аб уражаннях ад першай лекцыі на пачатку 1960-х гг.: «Аўдыторыя была амаль поўная, але мне пашчасціла адшукаць месца ў адным з верхніх радоў амфітэатра. У дошкі стаяла невысокага росту, пажылая жанчына ў старамоднай чорнай сукенцы... Яе твар, круглы, як поўны месяц, проста зззяў дабрынёю, а вялікія і таксама круглыя акуляры былі, здавалася, спецыяльна створаны для гэтага аблічча. Падкупала і грунтоўная, надта нетаропкая і глыбока інтэлігентная манера, з якою Соф'я Аляксандраўна звярталася да аўдыторыі».

Соф'ю Яноўскую паважалі калегі, а працавала яна ў цэлым сузор'і сусветна вядомых матэматыкаў МДУ. Дабіцца павагі ў такім калектыве было надзвычай цяжка, бо кожны з вучоных меў уласныя погляды на навуку, якія часта не супадалі з поглядамі яго калег. Соф'я Аляксандраўна не была канфармістам і заўсёды аргументавана адстойвала сваю ўласную думку, за што яе паважалі не толькі добразычліўцы. Дарэчным будзе нагадаць, што ў тыя часы трэба было мець не абы-якую смеласць, каб даказваць неабходнасць існавання той ці іншай навукі. Прыклад акадэміка М.І. Вавілава і яго любімай навукі генетыкі гаворыць сам за сябе, і памылкова было б лічыць постсталінскія часы вольнымі ад лысенкаўшчыны. Навуковым і грамадзянскім подзвігам Соф'і Аляксандраўны было стварэнне, а затым уратаванне савецкай школы матэматычнай логікі. Увогуле, матэматыка для яе была, як рэлігія для веруючага чалавека. Гэта адзначалі ўсе калегі і вучні Соф'і Яноўскай.

Неабходна адзначыць яшчэ адну важную рысу характару Соф'і Аляксандраўны – гэта пастаянная гатоўнасць дапамагаць таленавітай моладзі, асабліва ў складаныя часы. Для кожнага, хто да яе звяртаўся, знаходзілася добрае слова або парада. Яна была чалавекам моцнай волі, але слабага здароўя. Шмат гадоў хварэла цяжкай формай цукровага дыябету. Асабістае жыццё таксама не было простым. Яе сын быў псіхічна хворы, і ў апошнія гады жыцця яна часта правадзіла яго на лекцыі, бо пакідаць дома аднаго было небяспечна. Памерла Соф'я Аляксандраўна 24 кастрычніка 1966 года, а неўзабаве скончыў жыццё самагубствам сын.

Урад высока ацаніў навуковую дзейнасць С.А. Яноўскай – яна была ўзнагароджана ордэнам Леніна і трыма медалямі. Соф'я Аляксандраўна аказала вялікі ўплыў на творчасць некалькіх пакаленняў савецкіх логікаў і матэматыкаў.

*Сяргей ДЗЯМІДАЎ, старшы навуковы супрацоўнік музея-сядзібы «Пружанскі палацык»*

*(Пры падрыхтоўцы артыкула выкарыстаны матэрыялы з сеткі Internet)*





Ніл ГІЛЕВІЧ

## Народ!

Народ! Калі ты ёсць народ,
А не бязвольны раб
дармовы, –
Не дай пусціць сябе на звод:
Не выракайся роднай мовы!

Яна не горшая нічуць
За мовы іншых
слынных нацый.
Таму – адрынь, адпрэч,
адгудзь
Майстроў хлусні
і махінацый!

Каб не загналі без пары
Цябе ў магілу злыдні-юды, –
Загавары, загавары
На роднай мове
скрозь і ўсюды!

Загавары – каб свет наўсцяж
Пачуў твой голас
валадарны!
Тады на дзедаўскіх касцях
Узыдзе лёс –
як дзень бясхмарны.

1995, лістапад




Полацк на паштоўцы пачатку XX стагоддзя (на пярэднім плане – помнік героям 1812 года)

Валянціна КОЎТУН

## Пaклiканыя

(Урывак з рамана)

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 14–15)**

«Над рэкамі Вавілона, там, сядзела з плачам я, любові любоў твая. Бо руйнуюць любоў ужо. На вербах павесіла я арфы свае. А тыя, што мяне паланілі, песняў
ды весялосці патрабавалі.
Як жа спяваць мне, скажы, калі ў сэрца
атруту здрады і хлуслівасці ўлілі?»
«Чулі пра любоў любові тваё ў Эфраме.
Знайшлі любоў на палях Ярыма...
Святары Любові апранаюцца
ў праўды праменне».
«Пахвалі ж любоў чалавечую гукам трубным.
Пахвалі яе струнамі
і кімваламі гучнагалосымі».
«Каб не было любові з намі,
паўсталі б на нас людзі,
жывых бы нас праглынулі,
калі б загарэлася ятра ў іх
на нас; воды патапілі, паток бы прайшоў над душою нашаю... Дабраслаўёны Гасподзь,
які не даў
нас на здабычу іхнім зубам.
Душа наша вылецела,
як птушка з сеткі лаўцовай;
Сетка парвана, і мы – вызваліліся...»

...Яна не паддавалася аніякім угаворам і просьбам князя, і той, уздыхнуўшы, выслаў слугу да павозкі – паставіць кошык півта і ежы ў дарогу. Асобна паклалі абразы, загорнутыя ў радно. За дзвярыма камяніцы ўсё яшчэ шалела непагадзь, ранішняя цемра перамяшалася з халодным дажджом. Але фурман Сава ўжо рыхтаваўся ў зваротны шлях. Упэўніўшыся, што Еўфрасіння сапраўды не затрымаецца, Расціслаў скіраваўся яшчэ ў адны бакавыя дзверы і тут жа вярнуўся, трымаючы ў руках вялікую скрынку: адразу ж адчыніла вечка, залюбаваўшыся на дзівосна аздобленыя золатам і серабром крыжы. Упершыню за ўвесь доўгі вечар стоена ўсміхнулася. Гэта былі тыя самыя крыжы, якія яна калі-небудзь занясе ў Святы Горад. Каля дзвярэй павярнулася да князя: – Крывёю зямлю і рукі ўмываеце, браты мае, а жыватом сваім плоцяць дзеці і душы чыстыя... – Кіўнула ў бок яшчэ нерухомай Вольгі. – Госпаду нашаму і народу ўсяму крывіцкаму хіба даспадобы, што зроднікі, князі з аднаго кораня... – уздыхнула:
– Пашто ж адзін для аднаго мячоў вы не шкадуеце?

Расціслаў дачытваў пасланне полацкага веча, якое прасіла яго прыехаць і ўмацаваць вялікі сталец.

– Міру чакаю ад цябе, князь Расціслаў. Таму і падтрымала цябе на вечы. Але не забудзь – гнеў Божы, як зброя, з абодвух бакоў вострая.



**Рэчыца, помнік Еўфрасінні Полацкай (на месцы прыпынення мошчаў святой у 1910 г.)**

**Фота Міколы КОТАВА**

*Музычнае краязнаўства*

# Слуцкая «Пчолачка»

***Сённяшнюю госцю рэдакцыі «Краязнаўчай газеты» Наталлю МАТЫЛІЦКУЮ многія чытачы нашага выдання чулі і ведаюць як удзельніцу вядомага фальклорнага гурта «Ліцьвіны». Нядаўна выйшаў яе першы сольны альбом. Якраз ён і стаў нагодаю для сустрэчы. Але гутарка не абмежавалася толькі новай кружэлкай.***

*– Альбом «Пчолачка» – твой першы сольны. Але ж цябе многія памятаюць як удзельніцу гурта «Ліцьвіны».*

– Першы альбом «Ліцьвінаў», у якім я прыняла найбольшы ўдзел з пяцю сольнымі песнямі (а таксама вакальны ўдзел у складзе гурта), выйшаў у 1992-м. У 1994-м з'явіўся другі. Там два нумары з маім удзелам. Потым, дарэчы, песня «Да было ў Юр'я тры дачушачкі» з гэтага дыску патрапіла ў альбом «Музыка Усходняй Еўропы», які выйшаў у ЗША ў 1997 годзе. Стваральнікі ездзілі па Усходняй Еўропе і збіралі нешта абсалютна новае, што з'явілася апошнім часам у плане фальклору, фальклорных эксперыментаў.

*– Цяпер ты спяваеш у фольк-мадэрнавым гурце «Юр'я». А як з'явілася ідэя выдаць сольны альбом?*

– Першыя запісы для яго былі зроблены тры гады таму; потым я пісалася на студыі «Bredzis» знанага музыкі Алеся Лася. Хацелася ў сольным выкананні паказаць абрадавыя песні розных рэгіёнаў. Яны на дыску размешчаныя ў своеасаблівай паслядоўнасці: пачынаецца з веснавых загукальных, заканчваецца калядными. Ёсць лірніцкая старцаўская песня, балады, вясельныя. Безумоўна, ідэя рэалізавалася б – у іншым выглядзе, калі б не з'яўленне А. Ласяя. Гэта вядомы майстар народных інструментаў, і музыка выдатны, грае на васьмі народных інструментах, многія з іх сам і робіць.

Першая наша сустрэча адбылася выпадкова на вуліцы. Мяне Алесь ведаў яшчэ па «Ліцьвінах». Калі я з гэтай ідэяй насілася, не было музыкаў, якія б яе рэалізавалі – хацелася задзейнічаць розныя традыцыйныя народныя інструменты для аздаблення. Хаця ва універсітэце культуры (дзе я працую) шмат музыкаў вучыцца, але іх не вучаць традыцыйнаму выкананню. Гэта мне, вядома, не зусім падыходзіла. І тут з'яўляецца Алесь Лось, каторы грае на ўсіх інструментах, мае густ, мае адчуванне традыцыі нашай, веданне іх – тое, што трэба. Я сама прыйшла да яго: «Алесь, ці згадзішся б ты запісаць альбом?» Ён і кажа: «А чаму не? Толькі давай не зацягваць. Трэба гэта зрабіць якасна і хутка». І сапраўды, мы з ім фактычна асноўную колькасць песень запісалі за два разы. А яшчэ некалькі інструментальных нумароў у выкананні сваёй капэлы ён мне падараваў для аздаблення дыска. Выдатныя танцавальныя мелодыі, унікальныя рэчы, запісаныя ў экспедыцыях.

Запісалі песні, але ж было пытанне, хто будзе дызайн вокладкі рабіць. Мэта традыцыйнага выканання ў шчырасці, душэўнасці. Я хацела і адпаведны дызайн. Пакуль насілася з ідэяй, Лось засвоіў кампутарныя дызайнерскія праграмы...

*– Дык што скарыстана ў паліграфічнай аздобе?*

– Я некалі працавала ў музеі архітэктуры і побыту непадалёк ад Строчыцаў. На вокладцы я на парозе слуцкай хаты (перавезенай у музей) не выпадкова, бо сама случанка. Зрэшты, не выпадковая і назва дыска – «Пчолачка», – практычна так коратка называюць на Случчыне карагодную песню «Да ярылася пчолачка». Унікальны сюжэт гэтай песні. Гэта сапраўдная фальклорная візітоўка Случчыны. Для мяне было важна паказаць, што з усіх рэгіёнаў для мяне застаецца цэнтральным... а яна і сапраўды знаходзіцца ў Цэнтральнай Беларусі. Трэба сказаць, рэклама Случчыны ў мяне пачалася яшчэ з часоў «Ліцьвінаў», маю шмат уласных экспедыцыйных запісаў песень. Акрамя таго, я закончыла аспірантуру, і ў мяне даследаванне, якое працягваю, па спецыфіцы каляндарна-абрадавых песень Случчыны.

На самой кружэлцы – на фоне вялікага ручніка маленькая фотакартка. Ідэю А. Лось падказаў – як пчолачка ў маленькім вуллі, а наўкола дрэва Сусвету... Здымак зроблены ў музеі, я на ложку сяджу. У мяне даўно была ідэя знятца ў вязаных шкарпэтках. Вясковацць жыве ўва мне, бо я гадавалася ў бабулі ў вельмі традыцыйнай вёсцы Боркі на Случчыне.

*– Цяпер, Наталля, давай пагаворым пра напаўненне альбома. Зыходзячы з чаго быў адбор тых дзевятнаццаці твораў?*

– Хацелася новае праспяваць, сказаць: вось гэтае вы яшчэ не чулі, гэтую прыгажосць. Вядома, у аўтэнтычным запісе ўсе гэтыя песні ёсць, але ж не кожны мае архіўны запіс, каб паслухаць. Студэнты мне кажуць часам: «А мне ў Вашым выкананні больш падабаецца, чым як бабулькі спяваюць». Ёсць індывідуальнае чалавечае адрозненне. Як не імкнуся спяваць блізка па мелодыцы, індывідуальнасць усё ж прасочваецца, тым больш, калі выкананне сольнае. Мы задумалі песні розных рэгіёнаў пераважна каляндарна-абрадавыя. Лічу, яны найбольш падкрэсліваюць спецыфіку рэгіёнаў.

Я з маёй сяброўкай, у якой ёсць калекцыя беларускіх народных строяў, праехаліся па Беларусі – у нас вакальна-харэаграфічная кампазіцыя. Тую кампазіцыю мы назвалі «Суладнасць песняў і строяў». Паглядзелі людзі, дзівяцца: «Хіба гэта нашы строі?! Гэта нашы песні?» Атрымліваецца, многія візуальна нават не ведаюць, якія беларускія строі! Хоць выйшаў фотаальбом Міхася Раманюка. Дык яго ж не маюць, у школах гэта толкам не вывучаецца. І песні толькі ў стылізаванай манеры. Не ведаюць арыгіналу, аўтэнтыкі. І ў школьную праграму гэтае належна не ўведзена. Таму людзі і здзіўляюцца, мяркуючы па тых строях, у якіх выходзяць на сцэну многія фальклорныя калектывы. Але ж іншыя думаюць, што толькі такія строі і ёсць. І яшчэ была ідэя паказаць больш шырокаму, масаваму слухачу, што гэта можна маладым людзям узнаўляць, спяваць, каб людзі шырэй пазнаёміліся з арыгіналам, з яго ўзнаўленнем.

*– А ці трэба ўзнаўляць той арыгінал? Можа, варта развіваць фолькмадэрн; урэшце, не трэба ездзіць у экспедыцыі, калі фальклорныя запісы ў тых жа Кірчука, Выдронка, ва універсітэце культуры паназапісваныя ляжаць (малазапатрабаваныя) і размагнічваюцца? На дысках выканаўцаў – малая частка накопленага імі... Хто не ездзіць, можа, добра, што бярэ з палічак... Галоўнае, не тыражаваць папулярныя ўжо мелодыі.*

– Я лічу (думаю, так і правільна),





## З Прыдзвінскага куфэрка

### Прымаўкі

*Трапілася чарвяку на вяку.*

*Дзе была ніўка, там пожанька стала.*

*На пешага арла і сарока з колам.*

*Прапашчы, як булька на вадзе.*

*Чорт мяшок пашыў на тыя грошы.*

*Тырчаць, як казьліныя рогі ў мяшку.*

*Як трывога, то й да Бога.*

*У кожнай хаце па печы.*

*Чорт мазуту гоніць.*

*Мех ячменю палкай малоцяць.*

*Кісьляк лытку памачыў.*

*Пакалаціць вераб'я.*

*Радзіцца ў роўную пару.*

*Саракі гоняць сьнег да ракі.*

*Каб ня клін, каб ня мох, то і плотнік бы здох.*

### «Людзі шэмруць»

І на свой сьлед не ўспусьціла б – *не дазволіла б заляцацца.*

Кот яйцы не ад'есьць – *пра ўдачлівага рыбака.*

Золатам дарога пасьцелена – *забяспечаны поспех.*

Жоранцамі церці – *віхляць клубамі (задам).*

Нядотыкі сьвяткаваць – *не распачынаць працу, пра гультайства да работы.*

Трубіць у кулак – *галець.*

Лезьці на лес – *асмеліцца пярэчыць.*

Людзі шэмруць – *гавораць устрывожана, у патаеме.*

Хоць разапнуцца – *зрабіць высілкі.*

На дых не пускаць – *трымаць дыстанцыю.*

І віду не даць – *затаіцца.*

З калена выламаць – *прыдумаць.*

Расплох у сям'і – *разлад.*

Даць у тухмалку – *у карак.*

Наступіць на яе ступеньку – *спадабацца.*

Трон закончыўся – *мінулася ўдача.*

«Ала-ала!» – *пра пустыя размовы.*

Як каню дзёрнуць – *невялікі груз.*

Як рукамі разьвесьці – *невялікі надзел.*

Хоць шаром пакаці – *нішчымніца.*

Абы толькі стан зьмяніць – *выйсці замуж.*

І ад яйка адалье – *падманіць.*

***Запісаў***
***Сяргей ПАНІЗЬНІК***

*Папярэднія публікацыі рубрыкі – у №№ 18, 21, 43 2005 года.*



**Мястэчка Лявонпаль – крыніца натхнення для віцебскіх мастакоў Наталлі і Аляксандра Аніськовічаў**

## Наш каляндар



**200 гадоў Міхаілу ВАЛОВІЧУ** (1806–1833) – пачынальніку рэвалюцыйна-дэмакратычнага напрамку ў нацыянальнай палітычнай думцы, які пасля паражэння паўстання 1830–1831 гадоў супраць царызму прыйшоў да высновы, што на поспех нельга разлічваць без шырокага ўдзелу ў руху народных мас, найперш сялянства.

Спачатку светапогляд М. Валовіча развіваўся ў рэчышчы шляхецкай рэвалюцыйнасці (час вучобы ў Віленскім універсітэце і да ўпомненага паўстання), пасля ў яго пачаўся другі этап, блізкі да рэвалюцыйнага дэмакратызму і ўтапічнага сацыялізму. Ён лічыў, што буйная зямельная ўласнасць, прыгон – прычына галечы шырокіх слаёў люду, які трэба надзяліць зямлёй без усякага выкупу. Будучы лад Беларусі і Літвы бачыў у форме дэмакратычнай рэспублікі ў федэрацыі з дэмакратычнай Польшчай. Ускладаў надзеі на дэмакратычныя рэвалюцыі ў Еўропе і Расіі.

У сакавіку 1833 г. пасля эміграцыі ён тайна прыбыў у Беларусь і пачаў падрыхтоўку сялянскага паўстання, але спадзяванні на яго размах і моц не спраўдзіліся, яго атрад быў разбіты каля Слоніма, а ў маі сам ён быў арыштаваны і павешаны ў Гродне. З пакараннем першага беларускага рэвалюцыянера-дэмакрата сталі сумнавядомыя ў гісторыі словы гродзенскага генерал-губернатара М. Мураўёва: «Я не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць, а з тых, якія вешаюць». Нават расійскі перадавы друк назаўсёды даў яму агідную мянушку «вешальнік».

што трэба і тое, і тое... І гэтага нават мала на нашым агульнабеларускім рынку. Калі мы ездзілі са сваім праектам строяў і песні, то ў большасць рэгіёнаў беларуская музыка не да-хо-дзіць. І ёсць своеасаблівы дэфіцыт. Не трэба думаць, што настолькі тут усяго многа. Вось папсы – у асноўным расейскай – гэтага многа. Яна вельмі даступная. Гэта толькі і даходзіць. Асабліва па раённых цэнтрах. Ды нават і ў абласных. І ў Мінску не любую беларускую музыку проста знайсці. У мяне пра гэта пытаюцца студэнты-завочнікі. І можна ўказваць літаральна толькі некалькі пэўных месцаў, не любую музычную краму. Таму добра, што некаторыя музыкі, якія не маюць магчымасці ехаць у экспедыцыі, бяруць напрацаванае. Няхай спачатку з гэтым пазнаёмяцца. А Юры Выдронак, наколькі я абазнаная, перaслухаў вельмі шмат запісаў. Ён працаваў у фальклорным архіве, я – таксама, у Акадэміі навук, у фальклорным архіве БДУ; мы шмат чулі. Хочацца нешта такое, што не чуў ніхто, што трэба пашукаць. Ды нават не толькі дзеля гэтага – дзеля навукі. Любы новы варыянт, калі ён яшчэ не запісаны, мае велізарную каштоўнасць. Таму колькі не запісвай, гэта будзе нармальна. Тым больш, на новых носьбітах, больш якасных (яно і захаваецца лепш).

Пытанне, ці варта ўзнаўляць, калі ёсць запісы бабак... Таксама варта. Пацвярджэнне гэтаму – адкрыццё ў нас ва універсітэце культуры спецыялізацыі этнафоназнаўства, мы выпускаем 5-6 такіх спецыялістаў у год, я куратар адной з груп. Спецыялізацыя ўпершыню ў Беларусі адкрытая. Яны вывучаюць песні, інструментальныя і танцавальныя стылі розных рэгіёнаў краіны. Такія спецыялісты ўжо запатрабаваныя ў этнашколах, пазней будуць запатрабаваныя ў агульнаадукацыйных школах. Гэтая ідэя ўжо прабівае сабе дарогу.

***– А не позна? Бабкі ўжо старэюць, паміраюць, а маладзейшыя... Узгадай, як у фільме «Шла собака по роялю» пад маркай народнай песні фалькларысту адна жанчына спрабавала праспяваць песню Высоцкага пра Ваню...***

– Не. На спецыялізацыі этнафоназнаўства працуюць найлепшыя спецыялісты (у гэтым годзе, дарэчы, я параіла Алеся Ладя, які вядзе народныя інструменты), выкладае ў нас Ларыса Рыжкова, якая працуе і з дзіцячым калектывам, Таццяна Пладунова, Вячаслаў Калацэй... Гэта ўсё выдатныя спецыялісты, якія працуюць і з фальклорнымі калектывамі. Той жа Калацэй – новая генерацыя фалькларыстаў, які не толькі ў навуцы, але і сам яшчэ на дудзе грае. У Літве ёсць шмат калектываў, якія аднаўляюць фальклор, робяць гэта з густам, у адрозненне ад многіх нашых – густоўна. Таму што ў іх калектываў, набліжаных да аўтэнтычных узораў, шмат. Мы проста адстаем. Лепш позна, чым ніколі. Мне таксама падавалася, як пачынала: Божа мой, усё гіне! А фалькларысты выказваліся так і ў... XIX стагоддзі: усё прападае... А гэта быў у параўнанні з цяперашнім днём – ідэальны час.




Трэба сказаць, што абрадавыя песні павінны быць побытам носьбітаў, яны будуць, вядома, знікаць, яны даўно ўжо існуюць фактычна толькі ў памяці людзей. Але паедуць маладыя спецыялісты ў маленькія гарадкі і будуць нейкія традыцыі ўзнаўляць. Могуць існаваць варыянты і сцэнічныя, і несцэнічныя. Мы нейкія абрады ў Строчыцах рабілі – Каляды, жніўныя... Там гэтаму будуць навучацца новыя людзі, моладзь. Атрымаецца своеасаблівы працяг традыцыі. Гэта вельмі своечасова, і такіх людзей трэба пабольш. Але я не прыхільніца масавага выпуску, калі ў нас сілы малыя, штогод трэба набіраць выкладчыкаў на спецыялізацыю. Ці зможам забяспечыць навучанне на ўсіх курсах?

***– Гэта першы альбом, альбо першы і адзіны?***

– Ідэі ў мяне абавязкова будуць. Трэба пакуль з гэтым дыскам разабрацца, трэба, каб ён дайшоў да слухача. Пажадана, каб спадабаўся, каб быў запатрабаваным.

Мне вельмі спадабаўся падыход да фальклору Выдронка, мелодыка ўсіх песень гурта «Юр'я». Я ў захапленні ад ягоных аранжыровак. У гурце нас дзве вакалісткі. Цяпер Выдронак запісвае новы альбом, які хоча выдаць у найбліжэйшы час.

***– Некалі песні, змешчаныя ў альбоме «Пчолачка», ведала бадай кожная жанчына. Па-твойму, Наталля, цяпер фальклор, аўтэнтыка – элітарная музыка (з розных прычынаў)?***

– Гэта памылкова. Калі пачыналі «Ліцьвіны», можна было так казаць... Таму што кола слухачоў было сапраўды малое. Але калі альбом ужо выдалі, яго набывалі, так бы мовіць, вельмі розныя пласты. І цяпер... Першы, хто захацеў набыць «Пчолачку», ксёндз з Бабруйска, які пачуў пра яго па радыё. Ён быў у вялікім захапленні! Такую музыку з задавальненнем набываюць студэнты завочнага аддзялення розных спецыялізацыяў: і для працы, і для ўласнага слухання. Пакуль не было гэтага дыска – цікавіліся «Ліцьвінамі». Там таксама ёсць рознае запатрабаванне – некаторым трэба новае прачытанне... Гледзячы для якой катэгорыі. Для моладзі адназначна больш цікавы фольк-мадэрн, моладзь заўсёды схільная да эксперыментаў. Але калі якасна заспяваць традыцыйна, гэта будзе цікавым і моладзі, і старэйшым. Так што аўтэнтыка – класіка. Мадэрн – эксперымент. Сёння адно, заўтра будуць іншыя эксперыменты, а аўтэнтыка перажыла тысячагоддзі.

Трэба расказаць яшчэ пра адзін прыемны выпадак. Мая сяброўка Марына Сідаровіч мае сямігадовага сына Тамаша. Ён заўсёды навучаецца пабеларуску, «Ліцьвінаў» слухаў ледзь не з трох гадоў. Калі мы з ім недзе год таму пазнаёміліся, запытаўся: «А ты што, праўда – Матыліцкая?». – «Праўда». І, па-змоўніцку гледзячы на мяне, заспяваў: «Галуб на чарэшні...», а я падхапіла: «...галубка на вішні». Так мы ішлі па вуліцы і спявалі. Ён мяне памятаў па першым альбоме «Ліцьвінаў». Слухаў, ведае ўсе тэксты, усе галасы адрознівае. Калі дзіцё, Тамаш Сідаровіч, палюбіў гэтае – за тым нешта ёсць. Іншыя таксама палюбілі б, калі б іхнія бацькі давалі слухаць дзецям такую музыку. Так што, на прыкладзе Тамаша, я кажу, што за песнямі ў стылі аўтэнтык – будучыня.

***– Вялікі дзякуй, Наталля, за цікавую размову, і зычым поспехаў табе ды тваім калегам, а слухачам альбома – прыемных у ім знаходак. А яшчэ хачу звярнуцца да чытачоў, што нейкія моманты сённяшняй гаворкі могуць падштурхнуць чытачоў на працяг размовы – чакаем водгукаў!***

*Гутарыў*
***Уладзімір ПУЧЫНСКІ***

## Май

**10 – Сцяпан Гаўрусёў (1931), паэт** – 75 гадоў з дня нараджэння.

**15 – Ніна Тарас (1916), паэт** – 90 гадоў з дня нараджэння.

**18 – «Загляне сонца ў наша аконца»** (Пецярбург, 1906–1914), першая легальная беларуская выдавецкая суполка – 100 гадоў з пачатку заснавання.

**26 – «Узвышша»** (1921–1931), беларускае літаратурна-мастацкае згуртаванне – 80 гадоў з часу стварэння.

**30 – Зыгмунт Серакоўскі** (1826–1863), адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. – 180 гадоў з дня нараджэння.

**30 – Канстанцін Саннікаў** (1896–1965), рэжысёр, акцёр, педагог, адзін з заснавальнікаў БДТ (1920) – 110 гадоў з дня нараджэння.



*Пасадзіў сынок дубок...*

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 15

***Уздоўж.***
**5.** Біятлон. **6.** Кірасір. **9.** Асана. **10.** Асечка. **11.** Бандаж. **14.** Сеул. **16.** Граната. **17.** Бокс. **18.** Іткіна. **19.** Штанга. **23.** Барс. **24.** Індуска. **25.** «Руба». **28.** Аддзел. **29.** Пушбол. **30.** «Кодак». **32.** Ныранне. **33.** Атланта.

***Упоперак.***
**1.** «Стайкі». **2.** Зона. **3.** ФІФА. **7.** «Ратамка». **8.** Шамані. **12.** Трэнінг. **13.** Статыка. **15.** Лотас. **17.** Бугор. **20.** Накдаўн. **21.** Бусідо. **22.** Абводка. **26.** Сектар. **27.** Футзал. **30.** Кунг. **31.** Кіто.

## Крыжаванка «Чарнобыльская трагедыя»

### Уздоўж

**7.** Вядомы беларускі мастак, аўтар многіх работ, прысвечаных Чарнобылю, у т.л. абраза «Маці Божай ахвяраў Чарнобыля». **8.** Аб'ёмна-прасторавая структура, пабудаваная з мэтай пахавання разбуранага рэактара. **10.** «Чарнобыльскі...». Асамблея народаў, якая прайшла ў Мінску 26 лістапада 1989 г. і асудзіла вінаватых у трагедыі. **11.** Прыстасаванне для біялагічнай ачысткі забруджаных вод пад дзеяннем бактэрый. **12.** Марка рэактараў, устаноўленых на Чарнобыльскай АЭС (абр.). **15.** Арганічнае злучэнне, бясколерная гаручая вадкасць. **18.** Неядомыя ягады, грыбы і г.д. Гавораць, што яны... **19.** Савецкі вучоны-фізік, акадэмік АН СССР. Удзельнічаў у мерапрыемствах па ліквідацыі аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Скончыў жыццё самагубствам. **20.** Метэаралагічныя ўмовы, уласцівыя пэўнай мясцовасці ў залежнасці ад геаграфічных абставін. **21.** Калодзеж. **24.** Старшыня праўлення дзеючага з 1989 года няўрадавага грамадскага аб'яднання «Дзеці Чарнобыля». **26.** Герой Савецкага Саюза, лейтэнант, начальнік каравульнай службы Чарнобыльскай АЭС. Загінуў у першыя дні трагедыі. **27.** Плошча па-украінску. **30.** Вытворчая адзінка Чарнобыльскай АЭС. **32.** Герой-пажарны, ураджэнец Брагінскага раёна, які адным з першых уступіў у барацьбу з агнём на 4-м энергаблоку ЧАЭС. Загінуў. Пахаваны ў Маскве на Міцінскіх могілках. **33.** Хімічны элемент з радыеактыўнымі ўласцівасцямі, паліва для ЧАЭС. **34.** Несур'ёзны чалавек (разм.). **35.** Радыеактыўны хімічны элемент, радыенукліды якога ўваходзяць у склад паліва для атамных электрастанцый.

### Упоперак

**1.** Земляны насып уздоўж дарогі або канала. **2.** Сельскагаспадарчая бабовая культура, якая меней за іншыя назапашвае радыеактыўныя рэчывы. **3.** Радыенуклід, які ўваходзіць у склад паліва для АЭС. **4.** Міжнароднае агенцтва па атамнай энергетыцы (абр.). **5.** Амерыканскі прадпрымальнік і грамадскі дзеяч, які сумесна з сусветнавядомым доктарам Гейлам у першыя дні трагедыі наведаў ЧАЭС. **6.** Прыбор для вымярэння доз іанізуючых выпраменьванняў. **9.** Папярэджанне, паведамленне пра што-небудзь непажаданае. **13.** Сховішча для забруджаных рэчаў, тэхнікі, металалому і інш. **14.** Вядомы беларускі пісьменнік, аўтар апавядання на чарнобыльскую тэматыку «Львы», раманаў «Мсціжы», «Алімпіяда» і інш. **16.** Ёдзістае... Высокаэфектыўныя аэразолі, якія выкарыстоўвала авіяцыя для штучнага асаджэння забруджаных часціц над тэрыторыяй Магілёўскай і Гомельскай абласцей. **17.** Службовая асоба, якая стаіць на варце, ахове чаго-небудзь. **22.** Хрысціянскае свята, якое адзначаецца па заканчэнні пасяўных работ, пры аглядзе азімых. **23.** Адна з найбольш ранніх вясновых кветак. **25.** Прафесія Героя Савецкага Саюза Л.П. Цялятнікава, які ў першыя дні праявіў гераізм пры ліквідацыі аварыі на ЧАЭС. **28.** Участак зямлі каля дома для вырошчвання агародніны. **29.** Інструмент для акорвання і габлявання дрэва, струг. **31.** Раённы цэнтр у Гомельскай вобласці, у якім 23 красавіка 1994 г. адкрыты мемарыял у памяць аб адселеных вёсках. **33.** Апора гідратэхнічнага збудавання, маста.

***Склаў Лявон ЦЕЛЕШ, г. Дзяржынск***



## Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВАЎКАВЫСКІЯ ЗАМКІ** – тры ўмацаваныя паселішчы ў Ваўкавыску ў X–XIV стст.

**Шведская гара** – найбольш старажытны абарончы комплекс горада. Узнік у 2-й пал. X ст. на высокім (28–32 м), амаль круглым узвышшы, памеры пляца паселішча 55 на 50 м. Спачатку ўмацоўваўся драўлянымі сценамі. У канцы X ст. па знешнім перыметры насыпаны кальцавы вал (выш. 7 м) з праездам у паўднёвай частцы. Жыллё было з паўзямлянак слупавой і зрубнай канструкцыі і наземных дамоў з печамі-каменкамі ўсярэдзіне. У пачатку XIV ст. заняпала.

**Замчышча** – цэнтр старажытнага Ваўкавыска. Узнікла ў канцы X ст. на захад ад Шведскай гары на ўзвышшы памерам 81 на 123 м. У пачатку XII ст. умацавана валам вышынёю да 5 м. Было забудавана паўзямлянкамі і наземнымі дамамі, некаторыя з якіх звонку абмазваліся глінай. У XII ст. закладзены мураваны храм, нават пачатак будаўніцтва якога падкрэслівае Гродзенскую школу дойлідства. У 2-й пал. XIV ст. паселішча перастала існаваць.

**Муравельнік** – авальнае ўмацаванне (60 на 120 м) у забалочанай мясцовасці за 0,5 км на ўсход ад Шведскай гары, што ўзнікла на мяжы X–XI стст., было абкружана валам з праездам у паўднёва-заходняй частцы.

Пры раскопках адшуканы мастацкія вырабы: крыжы, лунніцы, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, фібулы, спражкі, бранзалеты і інш. упрыгажэнні з металу, са шкла, горнага крышталю, каменя, а таксама посуд, прасліцы, дзіцячыя цацкі, вырабы з рагоў і косці (вылучаюцца шахматныя фігуркі).

**ВАЎКАЛАК** (ваўкалака) – вобраз у славянскім фальклоры, чалавек або чарадзей, часамі і вампір, які можа пераўтварацца ў ваўка, каб наносіць людзям шкоду. У «Слове аб палку Ігаравым» гэтыя рысы прыпісаныя князю Усяславу Полацкаму, празванаму Чарадзеем. Вобразы ваўкалакаў ёсць у творчасці П. Багрыма, А. Абуховіча, Я. Купалы, М. Гарэцкага.

**ВАЎЧОК** Алесь – беларускі народны казачнік, родам з в. Крылоўшчына Навагрудскага павета (гады нараджэння і смерці невядомыя). У 1901 г. польскі лінгвіст Э. Кліх запісаў ад яго 18 казак і апавяданняў, якія надрукаваў (урыўкі), дакладна перадаўшы асаблівасці дыялекту. Казачнік самабытна развіваў у сваёй вуснай творчасці сацыяльныя матывы, вызначаўся акцёрскімі якасцямі.

**ВАЦЛАЎ** з Шамотул (Шматульчык, Шматульскі; 1533 ці 1534, г. Шаматулы (Польшча) – 1567 ці 1566) – польскі паэт, кампазітар, яркі прадстаўнік польскага музычнага Адраджэння, майстра паліфанічнага стылю a cappella. Блізка далучаўся да беларускай культуры. З 1555 г. працаваў у Радзівіла Чорнага. Напісаў нямала літургічных твораў, у тым ліку імшы, матэты, шматгалосыя песні. Даследчыкі лічаць найбольш каштоўным у яго творчасці матэты, якія вылучаюцца гуманістычным зместам, шырокім выкарыстаннем імітацыйнай тэхнікі, сувяззю з нацыянальнай народнай песеннасцю. Некаторыя яго мелодыі выдадзены ў Брэсце ў 1558 г., яго твор «Змяркаецца» ў свой час выконваў хор хлопчыкаў Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры Беларускай кансерваторыі ў Мінску (цяпер Рэспубліканскі вучэбны комплекс гімназія-каледж пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі).

## Сусветны дзядзінец

**930 г.** Ствараецца найстарэйшы ў свеце парламент – ісландскі альтынг.

**1001 г.** Пачатак княжэння Брачыслава, бацькі Усяслава Чарадзея. Княжыў да 1044 г.

**1693 г.** Французскі манах Д. Перыньён адкрывае сакрэт вырабу шампанскага. Для гэтага ён спажыў зусім просты прыём – дадаў ва ўжо амаль гатовае віно крыху дражджэй і цукру, пакінуўшы віно «пашумець» у бутэльцы.

**1777 г.** Адстаўны старшы сяржант палка лёгкіх драгун Ф. Эстлі адкрывае ў Лондане першы цырк. На круглай арэне (адсюль пойдзе і само слова «цырк») выступілі коннікі. Ініцыятар прыдумаў такі дыяметр цыркавой плошчы (42 футы; фут – крыху больш 0,3 м), каб для конніка стваралася адпаведная цэнтрабежная сіла імклівага ў бегу каня.

**1835 г.** Фінскі фалькларыст Э. Лёнрот надрукаваў першыя 32 руны карэла-фінскага нацыянальнага эпасу «Калевала».

**1917 г.** У Расіі ўпершыню ў свеце жанчынам прадастаўляецца выбарчае права без ніякіх агаворак.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасны – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by

Аб'ём рукапісаў не павінен перавышаць 10 с.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Меркаванні аўтараў могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Падпісана да друку: 20.04.2006.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330/0056609 ад 27.02.2004 г.)
Заказ 628.
Тыраж 1540 асобнікаў.